


# ПАВЕТ

DISTRICTUS



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 4 (41)
ЖНІВЕНЬ
2005 г.



*21 жніўня, у нядзелю, Браслаў адсвяткаваў 940-гадовы юбілей. Урачыстасці пачаліся на гарадзішчы Замкавая Гара. Тут быў разгорнуты комплекс "Старажытныя рамёствы", у якім супрацоўнікі Браслаўскага музейнага аб'яднання і іх сябры дэманстравалі тэхналогіі і заняткі, адноўленыя на матэрыялах археалагічных раскопак. Адбываліся паказы рыцараў з Мінска і Полацка. На танцавальнай пляцоўцы працавала выстава кветак.*

*Неўзабаве свята перайшло ў лесапарк "Лесвічоўка", дзе стрыжнем была канцэртна-забаўляльная праграма. Па-святочнаму прыгожым было і надвор'е.*

*Тым не менш, свята пакінула не самыя лепшыя ўражанні. Нагадвала яно старую зацягнутую музычную пласцінку — не вылучалася ні арыгінальнасцю сцэнарыя, ні шчырай працай арганізатараў. Часам здавалася — пабываў яшчэ на адных "Браслаўскіх зарніцах", якія самі на сабе становяцца ўсё менш выразнымі. На юбілеі горада амаль адсутнічала гісторыя, галоўныя персанажы мінулага Браслава. Не шмат людзей прыйшло на Замкавую Гару, дзе гісторыя Браслава была хаця б неяк прадстаўлена. Прыходзіцца часта сутыкацца з тым, як слаба жыхары Браслава ведаюць гісторыю свайго горада. Асабліва крыўдна, што і не асабліва ёй цікавяцца. Асноўныя наведвальнікі юбілейнай выставы ў гістарычным музеі, ды і самой экспазіцыі — турысты.*



*Паказальна і тое, якую дату абралі арганізатары для свята. У гэты дзень каталікі ўшаноўвалі галоўную святыню Браслаўшчыны — Абраз Маці Божай Браслаўскай. Убачыць усё самае цікавае на двух урачыстасцях было немагчыма.*

*Святкаванне юбілею Браслава выклікала асацыяцыю з сітуацыяй, характэрнай для ўсёй краіны. Дзяржаўныя ідэолагі заклікаюць ганарыцца дасягненнямі дзяржавы на фоне прыніжэння нацыянальных святынь, мовы, гісторыі. І насельніцтва (яшчэ не народ) не бачыць у гэтым нічога абсурднага. Не заўважылі і жыхары Браслава (яшчэ не грамадзяне свайго горада), як гістарычны юбілей амаль абышоўся без гісторыі.*





Падборку матэрыялаў па гісторыі Браслава чытайце на 2-7 старонках

# БРАСЛАЎ У ІЛЮСТРАЦЫЯХ

Ілюстрацыйны матэрыял з'яўляецца важнай састаўляючай любога гістарычнага выдання. Вялікім попытам карыстаюцца ілюстраваныя гісторыі, у якіх малюнкі, гравюры, фотаздымкі адыгрываюць асноўную ролю. Браслаў, як невялікае паселішча, не можа пахваліцца багаццем і разнастайнасцю падобнага матэрыялу. Першыя замалёўкі мястэчка былі выкананы толькі ў другой палове XIX ст. (Дз.Струкаў і Н.Орда). Толькі нядаўна мінулае XX ст. пакінула даволі значную колькасць фотаздымкаў, якія даюць уяўленне аб забудове мястэчка, важнейшых падзеях. Ілюстраваць амаль тысячагадовую гісторыю Браслава складана. Але апошнім часам было рэалізавана некалькі мастацкіх праектаў, якія значна палепшылі сітуацыю.

У 2000 годзе Браслаўскае краязнаўчае таварыства падрыхтавала і выпусціла камплект каляровых паштовак "Гісторыя Браслава ў малюнках" (мастак – Валеры Зінкевіч, распрацоўка сюжэтаў і тэксты – Кастусь Шыдлоўскі). Камплект уключае 16 паштовак. Сюжэты распрацоўваліся на падставе разнастайных гістарычных матэрыялаў (навуковыя рэканструкцыі, карты, ілюстрацыі выданняў і г.д.). Гісторыя Браслава падаецца ад часу заснавання ў XI ст. памежнай Полацкай крэпасці да паловы XX ст. Вось пералік сюжэтаў: "Браслаў – памежная крэпасць Полацкага княства. XI – XIII стст.", "Браслаўскія ваяры. XI – XIII стст.", "Вялікія князі літоўскія: Міндоўг, Гедымін, Альгерд, Аляксандр.", "Аляксандр і Алена ў Браславе. 1500 г.", "Падарожжа С.Герберта. 1517 г.", "Стэфан Баторы ў Браславе. 1579 г.", "Браслаўскі замак.1613 г.", "Мундзіры шляхты Браслаўскага павета. Канец XVIII ст.", "Герб Браслава. 1792 г.", "Маці Божая Браслаўская. Сярэдзіна XIX ст.", "План Браслава. Сярэдзіна XIX ст.", "Браслаў. Акварэль Дз.Струкава. 1864 г.", "Замалёўка Браслава Н.Орды. 1876 г.", "Славуты браслаўскі лекар С.Нарбут (1853 – 1926 гг.)", "Забудова Ю.Клоса. 1924 – 1926 гг.", "О.Гедэман (1887 – 1937 гг.) – выдатны даследчык гісторыі Браслава."



**«Стэфан Баторы ў Браславе. 1579» Партрэт славутага князя і караля пададзены на фоне карты С.Пахалавіцкага. Картограф быў у Браславе разам з уладаром. На карце горад акружаны воднымі абшарамі**

Наклад паштовак вельмі хутка разышоўся. Асобныя паштоўкі рэпрадуцыраваліся рознымі выданнямі нашай краіны ("Спадчына", "Павет", "Краязнаўчая газета") і Польшчы. Арыгінал-макеты зберагаюцца ў фондах Браслаўскага музейнага аб'яднання і неаднойчы прымалі ўдзел у выставах.

Нізку карцін, прысвечаных гісторыі Браслава, стварыў мастак з в.Барадзінічы Ян Рыдзіка. Яны складалі аснову персанальнай выставы мастака "Грымотная слава дзядоў", якая праходзіла ў 2002 годзе ў Музеі традыцыйнай культуры. Выставу вельмі цёпла прынялі шматлікія гледачы. Удалым атрымаўся трыпціх "Браслаўская балада", сюжэт якога сягае часоў Полацкага княства (карціны "Заслон", "Чаканне", "Буслы над замкам"). Мінуламу Браслава прысвечаны карціны "Пажар у Браславе ў 1661 годзе", "Напад Кернуса і Гімбута на Браслаў у 1065 годзе", "Княгіня Алена", "Браслаў 11 траўня 1794 г.".



**«Напад Кернуса і Гімбута на Браслаў у 1065 годзе»**



**«Браслаў. 11 траўня 1794 года». У гэты дзень на досвітку атрад расійскіх карнікаў напаў на мястэчка, у якім размясціліся паўстанцы. Пад час бою пачаўся пажар, які амаль знішчыў Браслаў**

Гэтыя творы зберагаюцца ў мастака. Да выставы быў падрыхтаваны каталог, але, на жаль, з вельмі дрэннымі рэпрадукцыямі. Творы Яна Рыдзікі могуць выдатна ілюстраваць выданні па гісторыі Браслава.

Мастак з Мінска Уладзімір Кандрусевіч, у якога даўнія трывалыя сувязі з Браслаўскай зямлёй, стварыў у 2005 г. серыю дрыварытаў, прысвечаных мінуламу Браслава. Серыя ўключае 15 сюжэтаў (тэматычная распрацоўка і тэксты – Кастусь Шыдлоўскі), пададзеных храналагічна. Асноўнае адрозненне серыі ад камплекта "Гісторыя Браслава ў малюнках" у тым, што У.Кандрусевіч не адаптаваў гістарычныя матэрыялы, а стварыў самастойныя мастацкія сюжэты на пэўныя тэмы. Дрыварыты надзвычай удала стылізаваны пад старадаўнія. Серыя можа быць і цудоўным відэарадам да гістарычнага выдання аб Браславе, а таксама легчы ў аснову самастойнага выдавецкага праекта. Серыя ўключае наступныя сюжэты (назвы пакуль рабочыя): "Браслаў – латгальскае паселішча VII – IX стст.", "Напад Кернуса і Гімбута на Браслаў. 1065 г.", "Бітва Міндоўга на беразе Браслаўскага возера. 1244 г.", "Сустрэча вялікага князя Свідрыгайлы з магістрам Лівонскага ордэна каля Браслава. 1434 г.", "Алена і Аляксандр у Браславе. 1500 г.", "Ля карчмы. XVIII ст.", "Апошні соймік на Замкавай гары. 1793 г." (ілюстрацыя), "І.Мюрат у Бяльмонтах. 1812 г.", "Браслаўскі кірмаш. XIX ст.", "Касцельны фэст. XIX ст.", "Першая сусветная вайна. 1916 – 1918 гг.", "Станіслаў Нарбут.", "Браслаў турысцкі. 30-я гады XX ст.", "Трагедыя Браслаўскага гета. 1942 г.", "Браслаў – паміж мінулым і будучым".



**«Браслаў. Акварэль Дз.Струкава. 1864» Вясковага выгляду хаткі, невялікі, але ўжо мураваны касцёл з двума драўлянымі званіцамі, драўляны праваслаўны храм. Гэта замалёўка Дз.Струкава - найбольш выразны гістарычны дакумент, які дае ўяўленне аб выглядзе Браслва ў гэты перыяд**



**«На третее лето князь Швитрыгаило ...собралися со всею силою своею у Витебску с князи и бояры рускими и пошол к Браславлю по Завельской стороне. И тут приспел к нему мистр лифлянтский со всеми силами своими, и пошли от Браславля к Вилькомирю». Так паведамлялі амаль усе беларускія летапісы пра адзін з эпізодаў паўстання вялікага князя Свідрыгайлы. Было гэта ў 1435 г.**



Braslav Lake District – in the Viking epoch

## *Выдавецкія навіны*

У часопісе "Viking Heritage Magazine" («Спадчына вікінгаў»), які выдаецца універсітэтам Готланда ў Швецыі, у першым нумары за 2005 год быў апублікаваны артыкул беларускага археолага Аляксандра Егарэйчанкі "Браслаўскі азёрны рэгіён у эпоху вікінгаў" (на здымку). Аўтар, які праводзіць раскопкі на археалагічных помніках Браслаўшчыны, абагульняе знаходкі, звязаныя з вікінгамі ў наваколлі Браслава (гарадзішчы Маскавічы, Рацюнкі, Зазоны, курганныя могільнікі Укля, Опса і некаторыя іншыя).

Матэрыялы даследчыкаў сведчаць, што прысутнасць вікінгаў у рэгіёне вялікай і звязана гэта з блізасцю Заходняй Дзвіны, важнай гандлёвай артэрыяй ранняга сярэднявечча. Раскопкі на Браслаўшчыне зацікавілі шведскіх гісторыкаў. Сведчанне гэтаму не толькі публікацыі ў шведскім часопісе. У ліпені гэтага года ў складзе экспедыцыі А.Егарэйчанкі на гарадзішчы Рацюнкі прымалі ўдзел выкладчыкі і студэнты ўніверсітэта Готланда. Азнаёміцца з публікацыяй А.Егарэйчанкі можна на сайце www.hgo.se/viking. На сайце змешчаны іншыя нумары часопіса.

Кастусь Шыдлоўскі

# Сталічнае места для свайго павета

***Працягваем друкаваць фрагменты з неапублікаванай кнігі К.Шыдлоўскага, прысвечанай Браславу. Пачатак у №3 (40)***

Браслаў ніколі не быў значным паселішчам. На працягу першых васьмі стагоддзяў гісторыі горада, ажно да XX ст., яго насельніцтва не пераважала двух тысяч чалавек. Тут не было значнага гандлю. Не з'яўляўся Браслаў прыкметным культурным, духоўным цэнтрам, не вылучаўся архітэктурнымі помнікамі. Тым не менш у гісторыі нашай краіны Браслаў займае далёка не апошняе месца. Справа ў тым, што горад на працягу стагоддзяў адыгрываў ролю важнага рэгіянальнага цэнтра. Намесніцтва, акруга, воласць, павет, раён, нават ваяводства - вось назвы адміністрацыйных адзінак у розныя гістарычныя перыяды, органы кіравання і самакіравання якіх размяшчаліся ў Браславе. І калі на картах XVI-XVIII стст. мы бачым, што Браслаў пазначаны на роўні з Мінскам, Полацкам, Лідай, Наваградкам, гэта сведчыць не ад велічыні горада, а аб яго адміністрацыйнай значнасці. На некаторых картах над значком Браслава горда лунае трохкутнае палотнішча павятовай харугвы ("... харугву чырвоную шляхта Браслаўская з гербам Вялікага княства Літоўскага на вайне ўжывае." А.Гваніні. Хроніка Еўрапейскай Сарматыі. Кракаў. 1611 г.). На прыканцы XVIII ст. гарады і мястэчкі Вялікага княства Літоўскага разбілі на чатыры класы. Браслаў быў аднесены да ганаровага другога класа (насельніцтва горада, а правільней, напэўна, мястэчка, у гэты час складала трохі больш за тысячу чалавек).




**Харугва над Браслаўскім замкам - сімвал таго, што тут дзейнічала павятовая адміністрацыя. Фрагмент карты 1613 г. Паштоўка з серыі «Гісторыя Браслава ў малюнках»**

Прынята лічыць, што яшчэ ў часы Полацкага княства Браслаў з'яўляўся галоўным паселішчам на паўночна-заходнім парубежжы краіны (археолагі і гісторыкі шырока ўжываюць паняцце "Браслаўскае Паазер'е"). Аднак сур'ёзны аналіз археалагічных матэрыялаў з суседніх паселішчаў падштурхоўвае спецыялістаў да іншага меркавання – рэгіянальным цэнтрам у XI-XIII ст. было паселішча на гарадзішчы Маскавічы, што ў сямі кіламетрах на поўнач. Тут маглі размяшчацца прадстаўнікі княжацкай адміністрацыі (у Браславе жыццё было больш небяспечным). На гарадзішчы Маскавічы знойдзены сляды вікінгаў, якія звычайна былі набліжаны да ўладнай вярхушкі.

Адміністрацыйная значнасць Браслава бясспрэчна для ўсяго перыяду Вялікага княства Літоўскага. З пачатку XIV ст. гісторыя Браслава звязана з Віленскім рэгіёнам. Магчыма Браслаў стаў падпарадкоўвацца новаму цэнтру яшчэ ў тыя часы, калі Вільня з'яўлялася сталіцай удзельнага княства Полаччыны. Пазней статус Вільні ўзвысіўся да сталіцы Вялікага княства Літоўскага, дзяржавы са славяна-балцкім насельніцтвам. З 1413 г. Вільня яшчэ і цэнтр ваяводства. Сустракаюцца звесткі, што ў 1245 г. Браславам завалодаў літоўскі князь Таўцівіл сын Дауспрунга, а ў 1307 г. князь Віцень далучыў да Літвы браслаўскае наваколле. У Віленскім ваяводстве Браслаў выступае як важны рэгіянальны цэнтр. Вядомы гісторык М.Любаўскі адзначаў, што Браслаўскі рэгіён адносіўся да даволі вялікіх падраздзяленняў дзяржавы. У дакументах XV - першай паловы VI стст. гэты рэгіён выступае пад рознымі назвамі – намесніцтва, дзяржава, воласць, зрэдку – павет. Межы адміністрацыйнай акругі яшчэ не былі дакладна акрэслены. Вядома, што ў пачатку XVI ст. Браслаўская акруга ўключала Укольскую, Апескую, Гарадзішскую і Друйскую (без горада Друі і наваколля) воласці. Усё гэта тэрыторыі, размешчаныя непадалёку ад Браслава. У самім Браславе, які складаўся з замка ці горада і неўмацаванага места, знаходзіўся вялікакняскі двор, непасрэдна звязаны са сталічнай адміністрацыяй. Браслаў часта ўзгадваецца ў ліку Віленскіх двароў. Летапіс XVII ст. "Хроніка Літоўская і Жамойцкая"



**Браслаўскі павет на карце Польшчы і Вялікага княства Літоўскага Н.Сансона. 1658 г. Парыж**



звяртаецца да падзей вакол падзелу спадчыны вялікага князя Гедыміна. Малодшаму любімаму сыну Еўнуту Гедымін аддаў Вільню і шэраг навакольных земляў, у тым ліку і Браслаў з акругай. Еўнут уладарыў у Вільні з 1341 г. па 1345 г., а потым быў выгнаны братамі Кейстутам і Альгердам. Ад імя вялікага князя ўладу ў Браславе здзяйсняў яго прадстаўнік – намеснік ці дзяржаўца (часам называемы старостам). Намеснік вяршыў суд, адказваў за збор падаткаў, стан гаспадаркі. Падпарадкоўваўся непасрэдна Віленскаму ваяводзе, але вялікі князь часта звяртаўся да намесніка, мінаючы пасрэдніка. Землі Браслаўскай акругі ў XV - пачатку XVI стст. з'яўляліся пераважна вялікакняскімі ўладаннямі. Даходы ад мясцовай гаспадаркі паступалі ў скарб уладара. Браслаўская акруга была адной з першых тэрыторый Віленшчыны, дзе правялі валочную памеру – зямельную рэформу, заклiканую павялічыць даходнасць уладанняў. З Браслава ў Вільні чакалі не толькі грошай, але і натуральных прадуктаў сельскай гаспадаркі, рыбы, пушніны, мёду, воску і г.д.

У 1565-66 гг. у Вялікім княстве Літоўскім была праведзена адміністрацыйная рэформа, якая яшчэ больш акрэсліла ролю Браслава як рэгіянальнага цэнтра. Рэформа праводзілася на ўзор Польскай Кароны. Тэрыторыя краіны разбівалася на ваяводствы, ваяводствы складаліся з паветаў. Паветы з'яўляліся даволі значнымі тэрытарыяльнымі адзінкамі, усяго іх налічвалася 30, у тым ліку і Браслаўскі. Віленскае ваяводства падраздзялялася на Ашмянскі, Браслаўскі, Віленскі, Вількамірскі паветы.

Браслаўскі павет набыў тэрыторыю з акрэсленымі межамі. На ўсходзе Браслаўшчына межавала з Полацкім ваяводствам, на поўдні з Ашмянскім, захадзе – Вількамірскім паветамі. Паўночная мяжа працягласцю больш за 50 кіламетраў напачатку з'яўлялася дзяржаўнай мяжой паміж Вялікім княствам Літоўскім і Лівоніяй. Найбольш кароткая яе адлегласць ад Браслава была каля 15 кіламетраў. Лінія размежавання ўстанаўлівалася камісарамі двух краін і сфармавалася яшчэ ў другой палове XV стагоддзя. З таго часу яна значна не змянялася, змяняўся толькі яе статус. Цяпер гэта дзяржаўная мяжа паміж Беларуссю і Латвіяй. Настолькі стабільны ўчастак мяжы з'яўляецца рэдкасцю ва Усходняй Еўропе.

Гістарычны Браслаўскі павет уключаў часткі тэрыторый сучасных Мёрскага і Шаркаўшчынскага раёнаў, суседніх раёнаў Літвы. У складзе павета апынуліся буйныя мястэчкі Друя, Відзы, вялікія гаспадарчыя комплексы – Апеская староства (вялікакняскае ўладанне), Дрысвяцкі ключ (дзяржанне віленскіх ваяводаў), Відзкая латыфундыя (уладанне віленскіх біскупаў). Пастаянна павялічвалася колькасць прыватных землеўладальнікаў. У XVI ст. буйнейшымі з іх былі: Сапегі, Масальскія, Мірскія, Агінскія, Стацкевічы. Шмат земляў на Браслаўшчыне ад вялікага князя атрымала шляхта са Смаленшчыны, калі Маскоўская дзяржава пачала цясніць Вялікае княства на ўсходніх рубяжах.

Браслаў стаў месцам размяшчэння не толькі вышэйшай службовай асобы- старосты, але і іншых кіруючых органаў, структура якіх пашырылася. Павятовы староста прызначаўся вялікім князем, як і да рэформы ў яго руках была сканцэнтравана вялікая ўлада, і дзейнічаць ён мог даволі самастойна, праяўляючы ўласную ініцыятыву. Захаваліся звесткі пра амаль чатыры дзесяткі асоб, якія ўзначальвалі Браслаўскую адміністрацыю ў XV-XVIII стагоддзях. У большасці выпадкаў гэта людзі вядомыя ў краіне, прадстаўнікі магнацкіх і шляхецкіх родаў. Многія з іх займалі высокае становішча ў дзяржаўнай іерархіі, праславілі сваё імя у вайсковых і дыпламатычных справах.

Першым з вядомых намеснікаў вялікага князя ў Браславе быў Войцех Манівід (нарадзіўся каля 1350 года, памёр пасля 1423 г.). Гэты чалавек належыць да ліку выдатных дзеячоў свайго часу, з'яўляўся адным з набліжаных да вялікага князя Вітаўта ўрадоўцаў (называлі правай рукой князя ў дзяржаўных справах). В.Манівід – таленавіты дыпламат,удзельнік важнейшых палітычных падзей-перамоваў, пагадненняў, уній і г. д. , адзін з герояў знакамітай Грунвальдскай бітвы з крыжакамі 1410 г., першы ваявода віленскі.Функцыі браслаўскага намесніка верагодней за ўсё выконваў у пачатку XV ст. Меў на Браслаўшчыне дробныя прыватныя ўладанні.У 1443 г. у якасці намесніка браслаўскага згадваецца сын Войцеха Ян ("Ивашко") Манівід.

У 1492-99 гадах браслаўскую адміністрацыю узначальваў Юры Зяновіч (нарадзўся каля 1450 г., памёр пасля 1516 года), прадстаўнік шляхетнага роду герба "Дэшпат". Паводле сямейных паданняў род паходзіў з сербскіх ці малдоўскіх земляў,прадстаўнік якога паступіў на службу да князя Вітаўта. Юры Зяновіч лічыцца адной з найбольш значных асобаў роду ў Вялікім княстве. Ён аказваў значны ўплыў на палітыку дзяржавы, занімаў пасады намесніка магілёўскага, смаленскага маршалка дворнага. Ю.Зяновіч быў уладальнікам вялізных маёнткаў, сярод якіх: Смаргонь, Паставы, Глыбокае. Прывілеем вялікага князя Аляксандра Ягелончыка ад 26 лістапада 1498 г. ён атрымаў права на "дворища и огород в месте Браславском". З тэксту прывілея вынікае, што Зяновіч купіў у Браславе ,у мяшчаніна Вайцяка двор, пазней дакупіў яшчэ два двары і агарод.На месцы набытых уладанняў глава браслаўскай адміністрацыі пабудаваў прадстаўнічую сялібу.



**Гербам «Ляліва» карысталіся браслаўскія намеснікі В.Манівід і С.Забярэзінскі, Т.Скумін-Тышкевіч і інш.**

У 1500-1507 гг. намеснікам браслаўскім быў Станіслаў Забярэзінскі з роду герба "Ляліва", да якога належыў і Войцех Манівід. Сам Станіслаў нічым асабліва не адзначыўся, яле яго бяцька Ян лічыўся адным з уплывовых магнатаў Вялікага княства.

Іван Сапега (нарадзіўся каля 1450 г., памёр у 1517 годзе), намеснік браслаўскі з чэрвеня 1502-га па 1517 год. Прадстаўнік знакамітага магнацкага роду герба "Ліс", вядомы дзяржаўны дзеяч. Быў пісарам гаспадарскім Казіміра IV, канцлерам вялікай княгіні Алены, ваяводам смаленскім, падляшскім, называўся найвышэйшым сакратаром Вялікага княства Літоўскага. Выконваў дыпламатычныя даручэнні ў Маскве (неаднаразова), Рыме. Адзін з палкаводцаў Аршанскай бітвы 1514 г., якая ўвайшла ў аналы вайсковай гісторыі. На Браслаўшчыне залажыў буйныя зямельныя ўладанні. У 1504 г. з дазволу вялікага князя І.Сапега ў 15 кіламетрах ад Браслава заснаваў мястэчка Іказнь з размешчаным на востраве мураваным замкам. Яшчэ раней у Іказненскім маёнтку выпрашыў збудаваць уніяцкую царкву (з'яўляўся прыхільнікам Фларэнцiйскай уніі). Вялікі князь Александр сваім прывілеем ад 16 мая 1499 г. дазволіў Івану Сапезе ў набытым доме ў "месте Браславском", адчыніць мядовую і піўную карчму, а прыбытак з яе скарыстаць на царкву Св. Духа ў сваіх іказненскіх уладаннях.

Пасля Івана функцыі браслаўскага намесніка 30 гадоў (1517-1547) выконваў яго сын Павел. Адукацыю атрымаў у Кракаўскім універсітэце, займаў пасады ваяводаў падляшскага і наваградскага, маршалка гаспадарскага. На Паўла Сапегу скардзіліся вялікаму

князю Жыгімонту I жыхары Браслаўскай воласці, што ён "кривды и тяжкости делал и новины уводил" П.Сапега перавёў падданых князя на грашовыя выплаты, увёў некаторыя новыя адпрацоўкі, якіх не было раней. Жыгімонт I распарадзіўся вярнуцца да "старины", гэта значыць бок прыняў бок браслаўцаў.

Вядомым палітычным дзеячам быў і Юры Осцік (нарадзіўся каля 1530-1579 гг.), першы староста павета пасля адміністрацыйнай рэформы. Занімаў пасаду ў 1557-79 гадах. Належыў да старажытнага баярскага роду герба "Трубы". Спачатку перавагу аддаваў вайсковай кар'еры, вызначыўся як добры камандзір, з'яўляўся ротмістрам наёмнай роты. Яго рота пэўны час размяшчалася і ў Браславе.



**Герб «Трубы». Імі карыстаўся ў XVI ст. Ю.Осцік, а таксама знакаміты браслаўскі лекар С.Нарбут (1853-1926)**

Вайсковы досвед Ю.Осціка магчыма паўплываў на прызначэнне ў Браслаў у якасці старосты, бо наконадні Інфлянцкай вайны прыпамежны Браслаўскі павет з яго замкамі павінен быў быць падрыхтаваны да баявых дзеянняў. Увосені 1565 г. браслаўскі староста за ўласныя грошы выставіў роту колькасцю 150 вершнікаў. Гэта быў патрыятычны ўчынак, які вымагаў значных фінансавых расходаў. Учынак заўважылі, з наступнага года Ю.Осцік заняў пасаду ваяводы мсціслаўскага, але рэзідэнцыяй і месцам яго сталага пражывання застаўся Браслаў. Ю.Осцік аказаўся ўцягнутым у палітычныя справы дзяржавы, удзельнічаў ва ўсіх важнейшых з'ездах княства. Браслаўскі староста меў добрыя стасункі з вялікім князем Стэфанам Баторыем. С.Баторы прызначыў Ю.Осціка на пасаду ваяводы смаленскага. Гэты ўрад быў больш ганаровым чым рэальным, але ўздымаў палітычны статус Осціка, адкрываў дадатковыя магчымасці кар'ернага росту. Аднак даволі нечакана, ва ўзросце 49 гадоў Ю.Осцік памірае.

Сярод старостаў браслаўскіх былі тры прадстаўнікі вядомага роду Скумін Тышкевічаў герба "Ляліва". Фёдар (Тэадор) Скумін Тышкевіч (?-1618) заняў вышэйшы ўрад Браслаўскага павета з 1581г. З'яўляўся асобай, набліжанай да вялікага князя Стэфана Баторыя, удзельнічаў у многіх яго выправах. У 1577 годзе па даручэнню ўладара ездзіў з пасольствам у Маскву. Сярод іншых пасад Ф.Скумін Тышкевіча – падскарбі дворны ВКЛ, пісар і падскарбі земскі ВКЛ, ваявода наваградскі. Лічыльны жэтон (лічман), знойдзены на Замкавай Гары ў Браславе, належыў менавіта Т.Скуміну Тышкевічу. Цікавасць уяўляе складаны герб старосты выбіты на адным з бакоў. Тарча ці шчыт падзелена на 4 часткі, у першым полі родавы герб "Ляліва"(месяц дагары рагамі, паміж якімі шасціпрамневая зорка), у астатніх палях – гербы маці ("Карчак"), бабкі па бацьку, бабкі па маці. Тарча зверху ўпрыгожана закрытым гелмам з шляхецкай каронай. Беларускі паэт XVI ст. Андрый Рымша прысвяціў гербу Т.Скуміна Тышкевіча панегірычны верш, дзе ёсць такія радкі:

*Бо так тот дом Скуминов в Литве ясне слынеть*
*И будет завжды слынуть, поки свет не минеть.*
*Смотри ж, як реки текут, а все три зъгодливе!*
*Вер, иж было где смотреть, а не похлибливе*
*Бо не по одной реце плавал и з делами*
*Служачи господару розумом, силами*
*Не чужому, своему и отчизне милой,*
*Трафлаючи недруга, но шыи отылой.*
*Тот герб здавна в его дом з матки назначоно.*

Пасля Тэадора старостам браслаўскім быў яго сын Януш (у 1595-1627 і 1640-1642 гадах), удзельнік пасольства ў Прусію, перамоваў са Швецыяй (аўтар дзённіка перамоваў), бітвы з туркамі пад Хоцінаму 1621 г., пісар вялікі ВКЛ, ваявода мсціслаўскі, трокскі, віленскі. У 1631-1632 і 1642-1645 гадах старостам браслаўскім быў пляменнік Тэадора Юры (Ежы) Скумін Тышкевіч.

Урад павятовага старосты займалі некалькі прадстаўнікоў мясцовай лініі вядомага магнацкага роду Агінскіх герба "Агінец", у тым ліку Ігнат Агінскі (каля 1698 - сакавік 1775 г.) староста браслаўскі ў 1728-1733 гг., апроч таго абозны літоўскі, маршалак Галоўнага Літоўскага Трыбунала, маршалак вялікі ВКЛ, дэпутат на дзяржаўныя соймы, удзельнік пасольстваў у Санкт-Пецярбург.

Сярод апошніх кіраўнікоў Браслаўскага павета найбольш адметнымі былі бацька і сын Гільзены. Гільзены - прыбалтыйскі дваранскі род нямецкага паходжання з Інфлянтаў (сучасная Латгалія). Ян Аўгуст Гільзен (1702-1767), дзяржаўны дзеяч набліжаны да Аўгуста III, кашталян Інфляцкі. Сваім родным Інфлянтам прысвяціў аб'ёмную гістарычную працу. Браслаўскім старостам быў у 1738-1757 гадах. Побач з Браславам набыў вялізны маёнтак і на высокім беразе возера Дрывяты пачаў узвядзенне прадстаўнічага мураванага палацу з паркам (будучы маёнтак Бяльмонты). Новую рэзідэнцыю не паспеў закончыць. Апошнія гады правёў у Інфлянтах, пахаваны ў касцёле у Дагдзе, які будаваўся на грошы Я. Гільзена. Надмагілле ўпрыгожана помнікам. Сын Яна Юзаф Гільзен (1736-1786), ваявода мсціслаўскі, віцебскі, быў старостам браслаўскім у 1757-1786 гг. Адзін з гучных учынкаў гэтага таксама неардынарнага чалавека - вызваленне па завяшчанню сваіх прыгонных сялян.

Увогуле, кожная са згаданых постацей браслаўскіх уладароў заслугоўвае пільнай увагі гісторыкаў. Пра некаторых ужо напісаны дзесяткі артыкулаў, некаторыя яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў. Цікавымі асобамі з'яўляюцца і іншыя браслаўскія старосты, сярод якіх варта адзначыць Станіслава Кішку (выконваў абавязкі ў 1522-1554 гг.), Івана Крошынскага (1554-1558 гг.), Кшыштафа Завішу (1645-1670 гг.), Караля Станіслава Радзівіла (1700-1708, 1710-1719 гг.), Станіслава Скопа (1547-1552 гг.), Фелікса Паца (1645 г.).

Браслаўскія старосты не ўвесь час знаходзіліся ў Браславе, хутчэй наадварот – маленькі гарадок не мог цягацца з больш значнымі цэнтрамі грамадскага і культурнага жыцця. Пакуль старосты бавілі час у сталічных гарадах, мясцовы ўрад выконвалі падстаросты. Некаторыя главы браслаўскай адміністрацыі, як гэта відаць з вышэй прыведзенага агляду, мелі ў Браславе сялібы ці маёнткі ў наваколлі. Спецыяльны гаспадарчы комплекс, цэнтрам якога з'яўляўся Браслаў - Браслаўскае староства, забяспечваў старостаў фінансамі. Браслаўскае староства належыла да вялікіх і даходных дзяржаўных гаспадарак (дарэчы ў гэтым хаваецца яшчэ адна прычына прыцягальнасці пасады главы Браслаўскага павета). У XVIII ст. староства ўключала каля 6 тысяч дзесяцін ворнай зямлі, сотні сялянскіх гаспадарак, дзесяткі азёраў. Яно падраздзялялася на 5 войтаўстваў: Укольскае (з Браславам), Залескае, Друйскае, Заснудскае, Перабродскае). У 1789 г. толькі два з іх - Укольскае і Заснудскае прынеслі каля 30 тысяч злотых даходу.

*(заканчэнне раздзела ў наступным нумары)*

 

## *Гартаючы старыя газеты*

*У віленскай газеце "Słowo" за 10 жніўня 1926 г. быў апублікаваны велізарны, на дзве старонкі, матэрыял, цалкам прысвечаны Браслаўшчыне. Артыкул называецца "Brasławskie sempervivum". У перакладзе з польскай мовы і латыні гэта значыць "Браслаўская вечнасць". Аўтар вельмі жыва, эмацыйна апісвае край, якім ён яго ўбачыў пад час знаёмства. З пункту гледжання сённяшняга чытача ў артыкуле шмат цікавых, ужо гістарычных звестак. Не аднойчы будзем звяртацца да гэтага каштоўнага матэрыяла. Напачатку – невялікі фрагмент з уражаннямі аўтара (на жаль у распараджэнні рэдакцыі няма заканчэння артыкула з прозвішчам) аб Браславе.*

*Матэрыял атрыманы дзякуючы Ганне Стэльмачонак, ураджэнцы Браслаўшчыны, якая пасля заканчэння Варшаўскага ўніверсітэта на стала пасялілася ў Польшчы.*



SŁOWO

BRASŁAWSKIE SEMPERVIVUM

Sempervivum ! ... Гэта штосьці такое, што не падлягае смерці і забыццю, штосьці, што бясконца адраджаецца, над чым не мае сілы нават усемагутны час ...

А х , Браслаў ! Уявіце сабе, велізарнае возера, з берагоў якога вырастаюць дзюны. Так, так, самыя натуральныя пясчаныя дзюны. Зусім такія, як недзе ў Бельгіі, у наваколлі Астэнда ці на берагах Фрызіі. Ля падэшвы гэтых дзюн, ля самай вады – мястэчка. Яно зусім не прадстаўнічае, ... з адной доўгай вуліцай. Трохі крамаў, трохі заездаў, самая значная буданіна – касцёл. На грэбені дзюнаў, пануе над мястэчкам і вылучаецца чырвонымі дахамі толькі што ўзведзены комплекс дамоў для ўраднікаў. Адсюль казачны від на возера. Галоўную вуліцу толькі цяпер пачалі брукаваць. На пясок яе прыроднага насыпу яшчэ панавозілі горы пяску. І хай толькі ўздымуцца віхуры, а гэта для Браслава з'ява не рэдкая! У адначассе ўздымаюцца над пяском туманы ..., клубы ..., пясчаныя завірухі .... Свету Божага не ўбачыш! Як нібыта ў гэтыя бясконцыя пясчаныя хмары пазаганяла ўсе самумы і містралі, сірока і бора. Бяда таму, хто ў гэтую шалёную пясчаную пастку ўедзе. Калі яго, як у пустынях Гобі ці Сахара не пахавае пясчаны саван, калі вырвецца з пясчанага віру, то якую ён атрымае асалоду, апынуўшыся на шырокай дарозе, якая агібае велічнае возера.

## Браслаў на старонках газеты "Kurjer Wileński" за 1929 г.

** 9 студзеня. Змешчаны артыкул пра варожае стаўленне браслаўскага ксяндза Савіцкага да мясцовай арганізацыі Саюза польскага настаўніцтва агульнаадукацыйных школ. Саюз выступаў супраць засілля каталіцкага кліра ў школьнай справе.*

** 24 сакавіка паведамлялася пра ўрачыстасці ў гонар маршалка Ю.Пілсудскага. Было вырашана адправіць з Браслава ў Варшаву дэлегацыю з просьбай, каб Пілсудскі даў згоду на ганаровае грамадзянства Браслаўскай і Друйскай гмін.*

** 4 красавіка. Газета інфармавала, што ў Браславе мясцовы аддзел Саюзу жаночай грамадскай працы раздаў 110 самым бедным дзецям сяточныя падарункі. У склад падарункаў уваходзілі прадукты харчавання (булачкі, яйкі, каўбаса, цукеркі).*

** 24 красавіка. Паведамлялася, што Ю.Пілсудскі стаў ганаровым грамадзянінам шэрагу гарадоў і мястэчак Віленшчыны, у т.л. і Браслава.*

** 8 чэрвеня. У Браславе адбыліся другія павятовыя спаборніцтвы па кросу на 3 км. Бралі ўдзел 29 спартсменаў. Перамог з вынікам 11 хвілін 38 секунд Пётр Баравік з Браслава.*

** 4 жніўня. Змешчаны артыкул С.Шантыра "Учора, сёння і некалькі заўваг на Браслаўскае заўтра". Цікавы погляд на поспехі і праблемы развіцця Браслава.*

** 26 кастрычніка. У Браславе адбыліся курсы настаўнікаў фізічнага выхавання і ваеннай падрыхтоўкі, якія скончылі 14 чалавек.*

** 3 лістапада. Адбыўся сход Браслаўскага аддзела Лігі марской і рачной. Зацверджаны бюджэт на 1930 г. у памеры 1480 злотых. Былі ўзняты пытанні аб будаўніцтве прыстані на возеры Дрывяты.*

** 13 лістапада. У Доме спорту адбылася конкурсная выстава сельгаспрадукцыі і народных тканін. Удзельнічалі усе гміны павета. Адкрыў выставу староста З.Янушкевіч.*

** 19 лістапада. Паведамлялася, што 6 лістапада міністр унутраных спраў падпісаў распараджэнне аб уручэнні медаля "За выратаванне гінучага" жыхару Браслава Лявону Беляку. 6 жніўня ён выратаваў Вацлава Рызенку, які пачаў тануць у возеры Дрывяты.*

** 21 снежня. Надрукавана інфармацыя пра тое, што 15 снежня ў Браславе адбылося урачыстае адкрыццё дзіцячага садка, разлічанага на 40 дзяцей.*

**Яна Шыдлоўская**




*У пачатку жніўня браслаўская дэлегацыя аматараў эксперыментальнай археалогіі наведалі польскае мястэчка Волін, на самым польска-нямецкім памежжы, дзе адбыўся XI-ы фестываль культуры славян і вікінгаў. Гэта ўжо трэцяя паездка браслаўцаў. Было прыемна пачуць ад арганізатараў, што браслаўскія майстры ўдала ўпісаліся ў фестываль і заўсёды будуць жаданымі гасцямі імпрэзы. Успамінае Яна Шыдлоўская.*

На жаль, далёка ад нас той час, калі па брукаваных дарогах спяшаліся рыцары. Дзяўчаты ужо не ўглядаюцца ўдалечынь, чакаючы героя на белым скакуне, і ндзе ты ўжо не пачуеш закаханыя спевы пад балконам незнаёмай прыгажуні. Як успаміны засталіся хіба толькі казкі пра прыгожае каханне, слаўныя подзвігі, вялікія перамогі. Але менавіта у час новых тэхналогій і сучасных машын людзі пракпалі сабе шляхі, якія вяртаюць іх назад, у казку.

Адзін з такіх шляхоў ляжыць праз тэрыторыю Польшчы, аж да самай нямецкай мяжы. Вакол гістарычнай выспы раскінуў свае будынкі Волін – адносна невялічкае мястэчка, але ўжо знакамітае на ўсю Еўропу не толькі сярод удзельнікаў археалагічных фэстываляў і аматараў гісторыі, але і сярод простых турыстаў. Ужо адзінаццаць разоў Волінская брама прымала фанатычных удзельнікаў і столькі ж разоў развітвалася з фанатычнымі ўжо турыстамі.

Годам нараджэння Волінскай традыцыі фэстываляў можна лічыць год 1993-ці. Спачатку была выстава, прысвечаная вікінгам у Польшчы, і менавіта на Волінскай Выспе. А далей ужо можна назіраць так званы "кар'ерны рост". Выстава мела вялікі поспех, які штурхнуў людзей працягваць незвычайную справу. З дапамогай гісторыкаў, апантаных аматараў археалогіі і зацікаўленых людзей удалося зарганізаваць першы Фэстываль Вікінгаў. Пасля першага фэсту адбыўся двухгадовы перапынак. Але як заўсёды пасля зацішша падымаецца сапраўдная бура, так і Волінскі фэст выбухнуў з неверагоднай сілай. З кожным годам колькасць удзельнікаў павялічвалася і дайшла да лічбы 1500(!). На выспе пабывалі прадстаўнікі Даніі, Швецыі, Расіі, Германіі, Украіны і г.д. Апошнія тры гады запрашэнне атрымліваюць прадстаўнікі і нашай краіны.

Чарговы раз браслаўскія аматары жывой археалогіі жнівеньскай парой накіраваліся ў бок Воліна. Добра наладаваныя машыны з лёгкасцю пераадолелі 1400 кіламетраў, і увечары пад'ехалі да знакамітай Выспы. Яна сустрэла удзельнікаў трэскам шматлікіх вогнішчаў і водарам прыгатаванай ежы. На Выспе між тым ужо размясцілася большасць удзельнікаў і чакала сонечнай раніцы.

Ранішняе сонца асвяціла ўсё тое, што яшчэ ўчора хавала ад цябе ноч. Па ўсёй выспе раскінуліся рэканструяваныя намёты, з якіх паволі пачалі выходзіць заспаныя ўдзельнікі, на рацэ Дзіўне, ля самага берага пакачвалася чародка караблёў з яшчэ прыспушчанымі ветразямі, а ад вогнішчаў, што так ярка палалі ўчора, засталася тонкая павуцінка дыму.

Пасля афіцыяльнага адкрыцця фэстывалю ўдзельнікі занялі свае месцы. Браславу яно было адведзена ў цэнтры пры ўваходзе на Выспу. Таму турысты адразу траплялі на смачныя пляцкі, што гатаваліся на стаянцы, мелі магчымасць напісаць колькі словаў на васкавых таблічках, паназіраць, як робяцца паясы, драўляныя лыжкі і вырабы з гліны. На стаянцы ўвесь час мітусіліся дзеткі ў строях, дапамагалі дарослым і сваёй прысутнасцю стваралі прыемную ўтульнасць і натуральнасць вясковага жыцця. Прыцягвалі натоўп браслаўскія майстры і самай вялікай у свеце "запальнічкай", з дапамогай якой беларускія ўдзельнікі на вачах у цікаўных турыстаў здабывалі агонь, які затым неслі да свайго вогнішча.

На выспе ўвесь час грала сярэднявечная музыка. Знакамітыя гурты "Стары Ольса" з Беларусі і "Fidelius" з Германіі прымушалі натоўп рухацца пад старажытныя мелодыі. Гуртам дапамагалі танцоры, якія развучвалі з турыстамі нескладаныя рухі сярэднявечных танцаў.

Калі ты не аматар танцаў і старажытных рамёстваў, то можаш пабавіць час, назіраючы бойку. У прызначаны час на полі збіраюцца ваяўнічыя харугвы. Шлемы пакрываюць галовы ваяроў, шчыты прыкрываюць грудзі, мячы блішчаць у руках. Праз імгненне два бакі зыйдуцца і пачнецца сеча, і сэрца тваё між волі закалоціцца пры выглядзе першай крыві. Але патроху нэрвовая сістэма прыходзіць у нармальны стан, бо бачыш, як толькі што забітыя рыцары весела шпацыруюць да сваіх намётаў.

Стомлены, ты гуляеш па выспе і раптам становішся сведкам шчаслівага вяселля. Шырокія сталы ломяцца ад дарагіх страў, келіхі падымаюцца ўгору, сустракаюць адзін аднаго, разліваючы светлы напой на драўляную паверхню. Гучаць вясельныя песні, віншаванні, госці ўжо не супраць патанчыць. У самым пачатку стала сядзяць маладыя: прыгажуня і яе смелы рыцар. Хіба гэта не мара кожнай дзяўчыны?

А ўвечары цябе зноў чакае сярэднявечная дыскатэка, дзе ты можаш знайсці у сабе здольнасці да старажытных танцаў. Аматарам раматнкі прапануецца вечаровая вандроўка на прасторнай ладдзі.

Так патроху заходзіць сонца, саступаючы месца вогненным факелам.

Такое жыццё доўжыцца тры дні. Ты назіраеш, знаёмішся, сустракаешся і развітваешся. Рыцары замест даспехаў апранаюць джынсы і лёгкія красоўкі, зноў званяць мабільныя тэлефоны, а дзяўчыны дасталі грабеньчыкі і прыхаваную падчас фэсту касметыку. Удзельнікі селі па машынах і раз'ехаліся, кожны ў свой бок. Раз'ехаліся, каб праз год зноў сустрэцца на Выспе.

«ПАВЕТ» DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)